Цана асобнага нумару 20 гр. | Pierasyłka apłačana ryčałtam.

№ 1 (194) Вільня, Аўторак 25 Сакавіка 1930 г. Год (VI)

# Сялянская Ніва

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу — палітычная, грамадзкая, літэратур. і гаспадарчая газэта

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, Людвісарская 1 (Wilno, Ludwisarska 1)
Рэдакцыя адчынена ад 11 да 1 гадз. дня.
ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ
Падпіска каштуе на год 4 зл., на паўгода — 2 зл., на 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.

ЦАНА АБВЕСТАК: на 1-шай старонцы 60 гр., 2 і 3—50 гр., на 4-ай—40 грш. — за радок дробнага друку ў адней шпальце.

## Новая калянізацыя — новае асадніцтва.

Гэтымі днямі міністар „Рэформ Рольных" п. Станевіч падаў Сойму аж чатыры законапраекты, якія маюць на мэце на беларускіх і ўкраінскіх землях насадзіць новых асаднікаў. І гэта сталася ня гледзячы на тое, што старая ідэя, ідэя п.п. Грабскіх і Дмоўскіх, абсалютна збанкрутавала.

П. п. Грабскія і Дмоўскія, маючы на мэце калянізацыю беларускіх і ўкраінскіх земляў, г. зн. забраўшы некаторыя маёнткі, якія нават не належалі да польскай шляхты, а былі ў іншых руках, ды разам забраўшы троха зямлі ад польскае шляхты, аддавалі яе польскім асаднікам, умацоўваючы лічбова польскі элемэнт на г. зв. „Крэсах Усходніх". А тым часам, робячы ўсякія труднасьці ў галіне асьветы, думалі, на працягу некалькі гадоў ня толькі скалянізаваць, але-ж і спалянізаваць адвечных жыхароў нашай старонкі. А п. Скульскі, у сваім часе, на'т выразіўся, што за некалькі гадоў, на Беларусі ані воднага беларуса і днём са сьвечкаю ня знойдзеш.

Тым часам жыцьцё бярэ сваё. Беларусы аказаліся ня надта лёгкія на палянізацыю, яны і цяпер захавалі, як кажуць палякі, сваю „одрэнбносьць" таксама як захавалі сваю мову і свае звычаі за доўгія часы маскоўскага панаваньня.

Праўда, за апошнія часы беларусы кепска адчуваюць сябе эканамічна і наагул вялікі эканамічны крызіс, бо ня маюць варштату працы, а гэты варштат якраз аддавалі і хочуць дарэшты аддаць другім.

Але-ж за тое беларусы вырасьлі на іншым полі! Беларуская нацыянальная сьведамасьць павялічылася калясальна. Беларусы сталі дамагацца сваей роднай школы, сталі патроху цікавіцца самаўрадам і гэтак далей.

З гэтаю сьведамасьцю урад меў і мае многа клопатаў. Гэтая сьведамасьць прымусіла, амаль-што ня ўсё польскае, палітычна думаючае, грамадзянства адмовіцца ад ідэі п.п. Грабскіх, Дмоўскіх і Скульскіх, бо праканаліся, што скалянізаваць і спалянізаваць беларусаў ня ўдасца.

І вось-жа знашліся новыя людзі, каторыя падтрымоўваюць ідэю калянізацыі! Хто-ж яны?

— Гэта тыя самыя асаднікі п. п. Прэдпэльскія, Камінскія, Стаўрогінскія і др., прайшоўшыя, ведамымі спосабамі, у Сойм з беларускіх акругоў.

Іронія лёсу! Асаднікі зьявіліся як чужынцы, пралезьлі ў Сойм і, замест таго, каб бараніць тутэйшага селяніна, крычаць: „Давай новых асаднікаў, давай новых калянiстых!" Чаму гэта так?

— Адкажыце чытачы самы сабе!

Мала таго, што яны хочуць насадзіць новых асаднікаў, але-ж новы законапракт прадбачыць, што тыя асаднікі, каторыя маюць нядобрую зямлю, маюць быць перанесены ў другое месцы, на лепшую зямлю. Камэнтарыі да гэтага зьяўляюцца лішнімі!...

Усе чатыры законапраекты так спрытна зрэдагаваны, што нібы тры з іх толькі рэгулююць старыя справы і толькі чацьвёрты гавора за тое, што мае быць пасаджана ўсяго 600 асаднікаў. Праўда, гаворыцца там, што зямлю маюць дастаць мясцовыя людзі, каторыя служылі ахвотнікамі ў польскім войску і маюць „крыжы заслугі". Але-ж ёсьць там і такі пункт, што зямлю могуць дастаць і тыя людзі, каторыя такжа, будучы ахвотнікамі ў польскім войску і маюць „крыжы заслугі", находзячы з Літвы, Латвіі і С.С.С.Р. Стоячы на адменным становішчы, г. зн. проці ўсякай калянізацыі, дзівіцца толькі прыходзіцца, што ў 20 веку, у спакойны час, пры такім гаспадарчым крызісе, які ёсьць у Польшчы, пры такіх, якія ёсьць, польска-меншасьцёвыя адносіны, п. Міністар Станевіч кідае вызаў беларускаму і ўкраінскаму грамадзянству.

На заканчэньне адно можам сказаць, што ўсё сьвядомае беларускае грамадзянства стаіць проці гэтых заканапраектаў і што нашыя паслы ў Сойме, зробяць усё магчымае, каб заканапраекты аб асадніцтве адкінуць.

**Незалежнік.**

## Беларусы!

Гэтым Беларускі Нацыянальны Камітэт паведамляе, што: у аўторак 25 сакавіка с. г. прыпадае дзень Вялікага Беларускага Народнага Сьвята — 12 ўгодкі **Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.**

За прыкладам мінулых гадоў Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні ладзіць і сёлета ў гэты Вялікі Дзень 25 САКАВІКА ўрачыстае сьвяткаваньне з наступнай праграмай:

**Ў аўторак 25 сакавіка с. г.** 1) а гадзіне 10 раніцы набажэнства ў касьцеле сьв. Мікалая (завул. сьв. Мікалая); 2) а гадзіне 11 дня набажэнства ў Пятніцкай царкве і а гадз. 12 у царкве сьв. Мікалая (Вялікая вул. 30); 3) а гадзіне 6 вечарам урачыстая акадэмія і канцэрт у салі Купецкай (вул. А. Міцкевіча 33А).

Гэтае паведамленьне Бел. Нац. К-т просіць уважаць за запросіны.

**Урад Бел. Нац. К-ту.**

## Дванаццаць гадоў

Кола часу ідзе нястрымана, а за кожным поўным сваім зваротам далічае да мінуўшчыны лічбу, якую мы называем годам. І вось, кожны такі год, калі гэтае кола прыходзе на пункт 25 сакавіка, мы ўспамінаем адну праяву, якая, як найпрыгажэйшая кветка, аздобіць нашу гісторыю, а разам з тым дае шмат чаго пад развагу. Гаворачы так, мы маем на думцы Абвешчаньне Беларускай Народнай Рэспублікі, як незалежнай дзяржавы ў яе этнаграфічных межах, якое адбылося 25 сакавіка 1918 года ў Менску. Гэтая векапомная праява аздобіць нашу гісторыю тым, што яна зьдзейсьніла адвечныя жаданьні Беларускага Народу, а тым аб'ектам, над якім прыходзіцца разважаць, ёсьць тая трагэдыя, што, выбіўшы з рук самастойную дзяржаўнасьць, паддала беларусаў сучаснаму крыўднаму лёсу.

Што-ж асталося нам?

Нам астаўся Вялікі Ідэал, які прыаздоблены новым дыямантам, вымагае творчай працы над асягненьнем і ўгрунтаваньнем таго, што было абвешчана дванаццаць гадоў таму назад.

Ці ёсьць у нас на гэта жаданьне, ці адчуваем мы ў тым патрэбу, мы, кожны год у дзень 25 сакавіка, які стаўся найвялікшым нацыянальным сьвятам, чым-колечы гэта выяўляем. Кожны год выяўленьне такое гавора, што і жаданьне і патрэба аканчальнага зьдзейсьненьня Ідэалу 25 сакавіка ёсьць, ды, што з кожным годам, яны павялічваюцца.

## Беларускія справы.

**Агульны сход Беларускага Нацыянальнага Камітэту,** адбыўся 2 г. сакавіка, на якім адбыліся перавыбары прэзыдыуму. Выбраны старшынёю сэнатар В. Багдановіч віцэ-старшынёю пас. Стэповіч і пас. Ярэміч, скарбнікам сэн. Рагуля і сэкрэтаром рэдактар „Бел. Крыніцы" Я. Пазьняк. Апрача перавыбараў сход прыняў рэгулямін, які прадбачыць, што кожная беларуская арганізацыя можа належаць да Нац. К-ту калі падасьць заяву і будзе прынята большасьцю галасоў. Цяпер да Бел. Нац. К-ту належыць 10 розных арганізацыяў і ўстановаў.

**Паседжаньне Рады Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры** вызначана на 30 г. сакавіка. На паседжаньні адбудуцца перавыбары Цэнтр. Ураду і Рэвізыйнай Камісіі і будзе апрацаваны плян далейшай дзейнасьці.

**Малады беларускі мастак** — скульптар Лукаш Кустоўскі прыступіў да працы над фігураю першага беларускага друкара Фр. Скарыны. Фігура будзе адліта з гіпсу. Падгатаваўчыя працы ўжо зроблены.

Ул. Казлоўшчык, **аўтар кніжак** аб фізычным выхаваньні напісаў вялікую повесьць пад назовам „Усьведамленьне." Тэма повесьці ўзята з жыцьця беларусаў-катал.

Повесьць абяцае быць вельмі цікавую і ўжо знаходзіцца ў друку.

**Група моладзі,** згуртаваная каля часопісі „Шлях Моладзі", пасьля таго, як улады адкінулі праект статуту арганізацыі „Будучыня", падала уладам на зацьверджаньне статут у новай рэдакцыі.

**Беларускі, г. зв. сял. работніцкі Клюб** пачаў выдаваць у Варшаве газэту „На Варці". Выйшаў ужо першы нумар.

**Газэта „Беларуская Крыніца"** праз тры разы падрад была канфіскавана. Паўторныя нумары выходзілі з пропускамі канфіскаваных артыкулаў.

*ГРАМАДЗЯНЕ!*

*Прысылайце падпіску на «Сялянскую Ніву» і карэспандэнцыі.*

